ГАЙДЫНГ

# Англійскія гайдачкі...



*Яны вельмі натуральныя — нашыя англійскія госці. Падчас паездкі англійскай гайдачкі разам з прымаючай сям"ёй за горад здарыўся эпізод, калі два мужчыны не змаглі справіцца з каварным замком (справа ўтым, што «загадвае» ім сын аднаго з іх). Лэй заўважыла гэта, прапанавала дапамагчы — замок ёй скарыўся ў колькі секунд. Гайды могуць усё!*

ФОТА ДЗМІТРЫЯ ХАРЫТОНАВА.



*Англійскія гайдачкі пасля Беларусі паедуць на радзіму, дзе многія правядуць жнівень вось у такім летніку. Дарэчы, трапіць у англійскі гайдаўскі летнік вельмі няпроста. А каб прыехаць у Беларусь, дзяўчынкі на працягу года зараблялі на сваю паездку.*

ФОТА З АРХІВА ЖАННЫ АНГЕРЧЫК.

*Пачатак на 1—й старонцы.*

Пасля прабывання ў лесе беларускія гайдачкі раз"ехаліся па дамах і прыхапілі з сабою англійскіх сяброўак. Дзве з іх паехалі ў Крупкі, дзе таксама сябруюць з мясцовымі дзяўчатамі, а пяцёра засталіся ў Маладзечне.

Сумаваць ім тут не даюць. Знаёмства з горадам пачалося з наведвання гарвыканкома (горад, дарэчы, дапамагае ў развіцці гайдаўскага руху). Затым – экскурсія па Маладзечне, паездкі ў Мінск, Нясвіж, Стоўбцы, дні ў сем"ях...

Відаць, што англійскія госці стамляюцца, многае для іхняга вока нязвыклае на нашай зямлі, аднак на пытанне да любой дзяўчынкі пра яе самаадчуванне нязменна чуваць аптымістычнае:

– I am fine!

У аўторак госці ад"язджаюць з Беларусі, няхай у іх жыцці заўсёды ўсё будзе цудоўна.

Добра, што ў горадзе дадалося людзей, якія пазнаёміліся з замежнымі сябрамі. Маладзечна ўпэўнена развівае партнёрскія сувязі з новымі іновымі гарадамі розных краін свету. Вось і Англія побач, цяпер «Туманны Альбіён» добра відаць.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

НАДЗВЫЧАЙНАЕ

# Не спыняюцца

ВАЛОЖЫН. Ноччу ў мінулыя выхадныя невядомы пакуль злачынца залез у адзін з пакояў спальнага корпуса аздараўленчага корпуса «Дружба», што пад Ракавам. Ён прапанаваў школьніцы... зрабіць прышчэпку, і тая згадзілася.

Шпрыц з прэпаратам быў падрыхтаваны наперад. Спрацаваў «лекар» прафесійна: апрацаваў (хутчэй за ўсё, спіртам) месца на ягадзіцы дзяўчынкі і небалюча ўвёў вадкасць.

МАЛАДЗЕЧНА. Амаль такім жа чынам была «прышчэпленая» ў ноч на 25 ліпеня і 11–гадовая мінчанка. Гэта здарылася ў аздараўленчым летніку «Брыганціна».

Яшчэ двойчы злачынца (ці злачынцы) уводзіў невядомую вадкасць адпачываючым у летніках дзецям – у «Івалзе», што паміж Маладзечнам і Вілейкай, а таксама пад Уздой.

МІНСК. Кіраўнікоў раённых аддзелаў крымінальнага вышуку менавіта па «уколах» збіралі ва ўпраўленні ўнутраных спраў Мінаблвыканкома. У агульных рысах, «почырк» злачынцаў прыкладна аднолькавы. Праўда, у «Івалзе» ўкалотую дзяўчынку яшчэ і згвалцілі.

Сведкі называюць мужчыну 30–40 год (у цемры, ды яшчэ са сну дзецям цяжка больш–менш дакладна вызначыць узрост). Апрануты быў мужчына ў чорную футболку з надпісам лацінскімі літарамі. У памяшканні пранікаў праз адчыненыя балконы. Прычым, пасля ягонага візіту дзеці не беглі па выхавацеляў, не падымалі шум.

Па візітах злачынцаў узбуджаныя крымінальныя справы. Адпрацоўваецца некалькі версій. Вядома, што не адкідаецца нават «фантастычная» версія – выпрабаванне кімсьці новага медпрэпарата. Пасля «прышчэпкі» дзеці адчувалі слабасць, галаўны боль, іх ванітавала.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 28.07 | 4.08 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 510 | 510 |
| Кілбаса с/в | 1 кг | – | 1724 |
| Сасіскі | 1 кг | – | 780 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 340 | – |
| Рыс | 1 кг | 280 | – |
| Цукар | 1 кг | 147 | 145 |
| Грэчка | 1 кг | 300 | – |
| Алей | 1 л | 420 | 470 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 160 | 150 |
| Маянэз | 250 г | 70 | 78 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 470 | 470 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 140 | 145 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 140 | 135 |
| Лімоны | 1кг | 580 | 480 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | – | – |
| Масла | 1 кг | – | – |
| Тварог | 1 кг | – | 120 |
| Малако | 1,5 л | – | 70 |
| Бульба маладая | 1 кг | 80 | 60 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 200 | 190 |

## На рынку ёсць ягады і іншае...

алыча .............................. 5л .................. 1400
кавун .............................. 1кг .................. 80
морква .............................. пучок ........... 75
агуркі .............................. 1 кг .............. 35
памідоры .......................... 1 кг .............. 160

ЛЕТА

# Сіроты ў проціваагазах

ВІЛЕЙКА. У канцы ліпеня адбылося закрыццё абаронна–спартыўнага летніка, які арганізавалі і фінансавалі аддзелы па справах моладзі, адукацыі райвыканкома і ваенкамата. Бацькам актыўны адпачынак дзяцей нічога не каштаваў.

Старшакласнікі жылі ў інтэрнаце Ільянскага сельгасатэхнікума. Акрамя спартыўных мерапрыемстваў, шмат падарожнічалі: Валожын, Хатынь, Мар'іна Горка. Займаліся страявой падрыхтоўкай, хадзілі нават у проціваагазах. У летнік узялі сірот, асуджаных умоўна падлеткаў.

*Аддзел інфармацыі.*

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# У Маладзечне – фальшывыя білеты?

*МАЛАДЗЕЧНА. Выкладчык мясцовага ПТВ—135 Алег Міхеенкаў разам з дачкой Таццянай вяртаўся аўтобусам дадому, у шосты мікраён. Дакладна па раскладзе "дзесятка" ў 18.06 узяла пасажыраў на прыпынку каля фабрыкі музычных інструментаў. Разам з Міхеенкавымі ехалі іхнія знаёмыя — сям'я Фядулавых. Усе разам і набылі ў кандуктара білеты.*

Пасля павароту аўтобуса з вуліцы Будаўнікоў на Міру ў "дзесятку" ўвайшлі кантралёры. Якім жа было здзіўленне выкладчыка ПТВ, калі іхнія білеты кантралёры палічылі несапраўднымі. Кандуктар жа раптам адмовілася ад таго, што прадавала ім білеты нагул. Хаця пасажыраў у аўтобусе на той час было няшмат і "працэс абілечвання" праходзіў даволі спрытна.

– Я адчуў сябе маральна знішчаным, – гаворыць Алег. – Хаця б таму, што знаёмыя, якія маглі б пацвердзіць набыццё намі білетаў, выйшлі крыху раней. Такім бездапаможным я адчуў сябе ўпершыню.

Тлумачэнні Алега пра тое, што білет набыў у гэтага кандуктара, жаданых вынікаў не прынеслі. Разгубленасць і бездапаможнасць, напэўна, і прывялі яго да неджэнтльменскага ўчынку: калі "дзесятка" ішла па вуліцы Прафсаюзнай (на наступным прыпынку трэба было выходзіць), выкладчык абедзвюма рукамі паспрабаваў рассунуць мажных жанчын–кантралёраў. Адна з іх абурылася:

– Вы мне ледзь не парвалі залаты ланцужок! Тады б я з вамі інакш размаўляла...

Сапраўды, калі б у рэйдзе ўдзельнічалі супрацоўнікі міліцыі, акрамя штрафу, давялося б Міхеенкаву адказваць і за дробнае хуліганства.

10–гадовая Таня падчас "разборак" увесь час плакала. Хаця менавіта яна і ліквідавала інцыдэнт: на найбольш нахабнага, на яе думку, кантралёра яна накінулася з кулачкамі. Ці то ад нечаканасці, ці то ад сораму (усе пасажыры сталі на бок Міхеенкавых), але кантралёры "зайцоў" выпусцілі.

– Дачка не магла заснуць да позняй ночы, так знервавалася, – гаворыць Міхеенкаў. – А я ў чарговы раз пераканаўся, што аўтобусы ў горадзе існуюць не для пасажыраў.

Да "аўтобусных разборак" маладзечанцы прызвычаіліся. Аднак тут пытанне прынцыповае. Наўрад ці, згадзіцеся, выкладчык вучылішча стане ездзіць без білета, але і кантралёры памыліцца не маглі. Таму напрошваецца наступная выснова: на маладзечанскіх маршрутах цвіце продаж несапраўдных білетаў. І пра гэта адпаведныя органы–інстанцыі не ведаюць.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

# Падпал у Валожыне

**М. Валожын, Віленскай губ. Ашмянскага пав.**

27 ліпня ізноў быў у нас пажар. Згарэла 10 габрэйскіх дамоў; праўда, што блізка ўсе яны багатыя, але гэткае нешчасьце, як пажар, трудна перанясьці кожнаму. Дамы былі застрахованы, але дабытак дамовы ўвесь прапаў, бо каб гэта было ў дзень, дык скарэй чалавек хопіцца ратаваць і напачатку шмат лягчэй агонь утушыць, але запалілася ў самы глухі сон, а 2 гадзіне ночы. Пакуль людзі сабраліся, агонь ужо добра разгуляўся і трудна было дəступіцца. Найбольш страты меў фельчэр І. Шварц, бо каля яго пачало гарэць; бадай усё згарэло, а шкода, бо гэта добры чалавек і прытом не багаты. Пажар пачаўся ад хлева купца А. Паляка. Кажуць, што нехта падпаліў, бо ў тым гаду ён два разы запаліваўся. Іосць такіе подлые людзі–зьверы, што для свайго інтэрасу так страшна губяць другіх. Пажарная дружына слаба памагае, німа ніякога парадку; усе камандуюць, а ніхто не слухае.

Стары Улас.

**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва". №31–32 ад 6 аўгуста 1909 г.**

*Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.*

КУЛЬТУРА

# 500 долараў каштуе відэакасета з запісам майстроў бальных танцаў.

# Мода на "Ча–ча–ча" вяртаецца

*МАЛАДЗЕЧНА. Настаўнік беларускай гімназіі, харэограф Дзмітрый Хаўронін адзіны ў горадзе, а можа, і ў рэгіёне, выкладае выключна майстэрства бальнага танца. Ягоная студыя "Грацыя" штогод набірае ўсё большы аўтарытэт.*

– Маім настаўнікам быў Аляксей Бальшакоў, – расказвае Дзмітрый Хаўронін, – яшчэ падчас другой сусветнай вайны ён ездзіў выступаць на фронт да салдат. На жаль, ён пайшоў з жыцця. Падчас маёй вучобы ў СШ №10 у школьны клуб "Рамантык" кіраўнік клуба Лідзія Маханькова запрасіла Бальшакова, каб павучыць нас асновам харэаграфіі. Ягоныя танцы "Венскі вальс", "Джайв", "Ча–ча–ча", павольны вальс, "Па–дэ–грас" я і цяпер танцую і вучу ім школьнікаў і дарослых.

Дзмітрый Хаўронін скончыў ваеннае вучылішча сувязі ў Палтаве, ужо на "грамадзянцы" – беларускі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці фізіка–інфарматыка. Аднак бальны танец стаў яго і хобі, і прафесіяй. У свой час Дзмітрый танцаваў у "Магістралі", займаўся ў мінскіх студыях.

– Калі бачу, як моладзь танчыць на дыскатэцы, мне становіцца крыўдна за яе, – гаворыць харэограф, – з усіх відаў танцаў вельмі паважаю народныя і бальныя. Няхай на мяне не крыўдуюць, але эстрадны танец нагадвае набор механічных рухаў. А бальны – гэта прыгожая праца ў пары, працэс зносінаў энергіяй, пачуццямі.

Цікава, што дзве пары выхаванцаў Хаўроніна зарэгістравалі шлюб. Ды і сам настаўнік жаніўся на сваёй былой вучаніцы. Акрамя работы ў гімназіі, харэограф вядзе платныя заняткі. Прычым, калі на іх ходзяць дзеці, бясплатна запрашаюцца і іх бацькі.

– У дарослых адразу адчуваецца скаванасць. Але толькі на першых занятках. Сярод дарослых наведвальнікаў пераважна інтэлігенцыя. А танец "Джайв" – найбольш любімы.

– Як нараджаюцца танцы?

– Здымаю танцы з відэакасет. Гэта вельмі дорага абыходзіцца. Да прыкладу, на рынку касета з бальнымі танцамі прызнаных майстроў каштуе да 500 долараў. Прыдумваю нейкія свае элементы. А наогул, танцы нагадваюць ігру на музычным інструменце. Ноты – тыя ж рухі. Галоўнае, каб з іх стварыць гармонію. Сёння я падрыхтаваў свае два аўтарскія танцы "Свечкі" і "Прыход вясны".

– Танцоры, здаецца, не толькі маюць нейкую асалоду ў "прыгожай працы", але і вялікія фізічныя нагрузкі?

– Недастаткова падрыхтаваныя школьнікі ў танцы "Самба" вымотваюцца за 2 хвіліны.

– Больш за год таму па горадзе хадзіла легенда. Быццам бы Хаўронін павез сваіх выхаванцаў на гастролі ў Санкт–Пецярбург, 10 чалавек размесціў у двухпакаёўцы сваёй цёткі. І гасцілі ў цёткі тыдзень.

– Ёсць недакладнасці. Я вазіў 14 чалавек, і жылі мы тыдзень у чатырохпакаёўцы. І ездзілі не дзеля гастроляў, хаця сапраўды выступалі ў "Сямейным клубе", а дзеля знаёмства з горадам.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Дзмітрый Хаўронін з жонкай Вольгай.*

ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА ХАЎРОНІНЫХ.

# Недаспяваная песня

*Не веру, не веру, каб у*
*сцюжы замерзла,*
*што цудна вясной расцвіло,*
*не веру, не веру, каб калісь*
*замерла,*
*што песняю толькі жыло...*

***Л.Геніюш***

Браты Ільяшэвічы. Старэйшы Мікола і малодшы Хведар. Дзве маленькія галінкі з вялікага дрэва, імя якому Беларусь. Кожнаму з іх было суджана праспяваць сваю адметную, пасвойму непаўторную песню жыцця. Толькі, на жаль, песня тая была кароткая і не да канца дапетая. Але ў гэтым была не іхняя віна. Неміласэрны лёс без пары звёў гэтыя ахвярныя і выдатныя постаці ў магілу. Затым былі вымушаныя дзесяцігоддзі забароны іх твораў і ўладныя табу на ўпамінанні іхных прозвішчаў у беларускім савецкім друку. І толькі цяпер іхняя спадчына вяртаецца ў лона роднай культуры. Вяртаецца заслужана. Бо зроблена братамі Ільяшэвічамі шмат і грунтоўна. І на розных дзялянках. Старэйшы Мікола быў выдатны гісторык, антраполаг, псіхолаг, педагог, грамадскі дзеяч. Не адставаў ад брата і малодшы. Выдатны паэт (аўтар трох зборнікаў вершаў), празаік, гісторык, педагог, крытык, выдавец. Працавалі апантана, ведаючы, што поле вялікае, а сейбітаў мала.

Пра аднаго з іх, а менавіта пра Хведара, напісаны цікавыя грунтоўныя артыкулы, якія належаць пяру самага абазнанага даследчыка той незвычайнай міжваеннай заходнебеларускай пары Арсеню Лісу. Пра другога, за выняткам невялічкай нататкі, змешчанай у "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" за подпісам Генадзя Каханоўскага, не сказана нічога. А шкада. Такія людзі, як Мікола Ільяшэвіч, даўно вартыя асобнай грунтоўнай манаграфіі. Але гэта ў іншых народаў. Толькі не ў беларусаў. Мы ўнікальная нацыя хоць бы ў тым, што заўсёды і ва ўсім спазняемся. Спазняемся выдаваць патрэбныя кнігі, не спяшаемся аднаўляць свае помнікі гісторыі і культуры, вяртаць родную мову ў штодзённы ўжытак, шанаваць сваіх герояў, геніяў і прарокаў. Не спяшаемся пісаць і пра Міколу Ільяшэвіча.

А нарадзіўся Мікола Ільяшэвіч у Пружанах у 1903 годзе. Неўзабаве сям'я пераехала ў Вільню. Бацька працаваў чыноўнікам на пошце, а маці была хатняй гаспадыняй. Бацькі былі праваслаўныя і не цураліся беларускасці. Дома заўсёды размаўлялі на роднай мове і стараліся любоў да яе прышчапіць дзецям. Акрамя старэйшага Міколы і наймалодшага Хведара была ў іх яшчэ дачка Ніна. Вучыўся Мікола спачатку ў пачатковай школе, а затым у Віленскім духоўным вучылішчы. У 1915 годзе ў сувязі з падыходам да Вільні фронту сям'я эвакуавалася ў Расію. Жылі ў Разанскай губерні. І толькі ў 1919 годзе з цяжкасцю ўдалося вярнуцца на Беларусь, у родную і дарагую Вільню. У тым жа годзе Мікола стаў вучнем Першай беларускай гімназіі, а праз нейкі час туды паступіла і сястра Ніна. Малодшы Хведар хадзіў у польскую пачатковую школу. Жылі Ільяшэвічы на Паплаўскай вуліцы, і сямейны дастатак іх быў даволі сціплы. Як пісаў пра той перыяд В.Жук-Грышкевіч у сваіх успамінах: "Ды і з



прадуктамі тады не было так лёгка ў Вільні. Цукру, сала і мяса дастаць было цяжка. Адно добра, што было досыць хлеба, хоць і падобнага на гліну, малака, якое прывозілі прыгарадныя сяляне, ды селядцоў.

Вучыўся Мікола добра. Быў адным з лепшых вучняў гімназіі. Высокі, прыгожы, з чорнай непаслухмянай чупрынай, заўсёды добра апрануты, ён карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод гімназістаў. Асабліва шчырыя сяброўскія стасункі былі ў яго з братамі Дылісамі, Вінцэнтам Жук-Грышкевічам і Уладзімірам Каржом. Не цураўся і грамадскай працы. Калі ў лютым 1921 года пачаў выходзіць часопіс "Маладое жыццё", то яго прозвішча значылася сярод заснавальнікаў, а пазней і сярод рэдактараў. Праўда, лёс гэтага выдання быў кароткі. У студзені 1923 года часопіс спыніў сваё існаванне. Выйшла толькі сем яго нумароў. Але якіх! На яго старонках друкаваліся Уладзімір Жылка і Ігнат Дварчанін, Уладзімір Дубоўка і Язэп Драздовіч. Друкаваўся і Мікола Ільяшэвіч.

У 1923 годзе Ільяшэвіч заканчвае Віленскую беларускую гімназію і адпраўляецца на вучобу ў Прагу. Чаму аж у Прагу? Ды таму, што польскія універсітэты для выпускнікоў беларускіх гімназіяў у той час былі недаступныя. Тлумачылася гэта па-рознаму, але самая галоўная прычына палягала ў тым, што палякі не жадалі павелічэння нацыянальна-свядомай беларускай інтэлігенцыі. Каб паступіць у польскі універсітэт, патрабавалася быць католікам ці перайсці ў каталіцызм, здаць матурны экзамен за гімназію перад польскай атэстацыйнай камісіяй, быць лаяльным да польскай дзяржавы і г.д. У той жа час чэшскі палітык, гісторык, філосаф, прэзідэнт Чэхаславакіі Тамаш Масарык з выключным разуменнем і спагадай паставіўся да тагачасных нацыянальных меншасцяў Польшчы, у тым ліку, і да беларускай. Па яго распараджэнні ў сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны прымаліся юнакі і дзяўчаты з Заходняй Беларусі і беларуская моладзь з Латвіі. Ім выдзяляліся інтэрнаты і стыпендыі.

Каб патрапіць у Чэхаславакію, трэба было перайсці польска-літоўскую мяжу. Часцей за ўсё, яе пераходзілі нелегальна, з пэўнай рызыкай для жыцця. "Мяшочак на вяровачцы праз плечы, у рагох дзве бульбіны, каб вяроўка не коўзала, доўгія боты, кашуля хатняя – у такім выглядзе трапіў мой муж у Эўропу. Так прыйшлі туды і іншыя з нашай зямлі, каб магчы вучыцца", - так апісвае паездку свайго мужа на вучобу ў Прагу Ларыса Геніюш у сваёй славутай "Споведзі". Патрапіўшы ў Ковенскую Літву, беларуская моладзь даставала пашпарты (ад прадстаўнікоў урада БНР), а то і без іх, і выпраўлялася далей. Прыехаўшы ў Прагу, стараліся знайсці Чэшска-украінскі камітэт, які аказваў сякую-такую дапамогу будучым беларускім і ўкраінскім студэнтам. Але найбольшую падтрымку мела моладзь ад прадстаўніка Рады БНР на Чэхаславакію прафесара Міколы Вяршыніна. Гэта ён займаўся справай іхняга ўладкавання, грашовай дапамогі, тлумачэннем чэшскіх законаў і г.д. У той жа "Споведзі" Ларыса Геніюш піша: "У Вільні была Беларуская школьная рада, дзе працавалі Тарашкевіч і Грыневіч, якія перспектыўным студэнтам далі пасьведку ад Школьнай Рады, якая была як пропуск у Чэхаславаччыну. Дзеячы благаслаўлялі моладзь на навуку й бралі ад кожнага забавязанне, што, атрымаўшы асвету, кожны выдасць кніжку на роднай мове па спецыяльнасці й дасць за свой кошт вышэйшую асвету аднаму свайму суайчынніку".

З газеты "Кур"ер Віленскі" за 15 красавіка 1927 года можна даведацца пра колькасць беларускіх студэнтаў у пражскім Карлавым універсітэце. Так, у 1920/21 навучальным годзе іх было толькі два чалавекі. Затое ў 1921/22 – 10 чалавек, у 1922/23 – 50, у 1923/24 – 90, у 1924/25 – 110, а ў 1925/26 – 100 чалавек. Акрамя Прагі, беларускія студэнты вучыліся ў Брне, Браціславе, Падэбрадах, Пшыбраме ды іншых чэхаславацкіх гарадах.

Як я пісаў раней, Мікола Ільяшэвіч прыехаў у Прагу у 1923 годзе. З ім прыехала вялікая група беларускай моладзі, якая складалася з віленчукоў, навагрудчан і дзвінчукоў. Сярод іх былі Мікола Гарошка, браты Орсы, тры браты Сакі, Мікола Чарнэцкі, Аўген Дыліс, Лявон Рыдлеўскі, Мікола Абрамчык, Уладзімір Жылка, Вячаслаў Лаўскі, Міхась Каберац ды іншыя. У будучым яны сталі элітай беларускага народа, яго гонарам і сумленнем. З мая па чэрвень 1923 года Мікола Ільяшэвіч вучыўся на падрыхтоўчых курсах у Езафове, а ў ліпені, паспяхова здаўшы ўступныя экзамены, становіцца студэнтам геаграфічнага універсітэта Пражскага універсітэта. Былая студэнтка Людміла Краскоўская ў сваіх успамінах пісала: "Ежа ў Студэнцкім доме ў сталоўцы была танная, але не вызначалася добрай якасцю. Жыццё студэнтаў у Празе не было лёгкім, з грашыма трэба было эканоміць. Дзяўчаты ў большасці ўмелі гаспадарыць і абыходзіліся адной стыпендыяй, але ў хлопцаў выходзіла горш". Розныя прычыны, а ў першую чаргу, матэрыяльныя цяжкасці, неспрыяльны клімат прывялі да таго, што недзе ў 1924 ці пачатку 1925 года Мікола Ільяшэвіч захварэў на туберкулёз лёгкіх. Былі моманты, калі здавалася, што жыць засталося лічаныя дні. Тады вымушаны быў кідаць вучобу і выязджаць у туберкулёзныя санаторыі Чэхаславакіі. Крыху ачуняўшы, браўся за вучобу яшчэ больш апантана. І адкуль толькі сілы браліся? Стараўся выкарыстаць кожную вольную хвілінку, кожную магчымасць, каб наведаць багатыя чэшскія архівы, бібліятэкі, музеі.

Калі ў Празе пачалі выходзіць беларускія часопісы "Беларускі студэнт", а затым і "Перавясла", то яго прозвішча можна было сустрэць сярод аўтараў гэтых перыядычных выданняў. Калі ў 1925 годзе беларускія студэнты Чэхаславакіі наладзілі кантакты са сваімі калегамі-беларусамі з вышэйшых навучальных установаў Вільні, Берліна, Парыжа і Рыма і заснавалі Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацыяў (АБСА), то і ад гэтай справы ён не застаўся ў баку. Неаднойчы выбіраўся ў склад яго кіраўніцтва, быў сябрам прэзідыума гэтай арганізацыі, сакратаром і прэсавым рэферэнтам. Быў адным з заснавальнікаў і першым старшынёй Беларускага (Крывіцкага) культурнага таварыства імя Ф. Скарыны. Акрамя таго, выкарыстоўваў кожную нагоду, кожную магчымасць, каб пазнаёміць чэхаў з культурай свайго народа "з беларускім пытаннем, беларускім жыццём". Змяшчаў артыкулы па гісторыі Беларусі ў розных перыядычных і энцыклапедычных выданнях Чэхаславакіі. Недзе ў 1927 годзе закончыў вялікі гістарычна-інфармацыйны нарыс на чэшскай мове "Беларусь і беларусы", які асобнай кніжкай выйшаў у 1930 годзе ў Празе. Кніжачка была невялікая па фармаце з этнаграфічнай і палітычнай картай Беларусі з 13 малюнкамі і налічвала 126 старонак. Гэта была адна з першых кніг на чэшскай мове пра Беларусь. Апрача названай кнігі, Мікола Ільяшэвіч напісаў шмат іншых працаў для чэхаславацкай прэсы. Прыкладам, у 1928 годзе ў прэстыжным зборніку чэхаславацкага геаграфічнага таварыства "Sbornik ccl. Spolecnosti zemepisne" у кнізе 1-4 быў надрукаваны вялікі артыкул пад назвай "Культурна-геаграфічны характар Беларусі". Нейкі час працаваў у рэдакцыях Вялікай чэшскай энцыклапедыі Otta і ўкраінскай энцыклапедыі. І ўсюды імкнуўся нешта змясціць пра Беларусь, пра яе гістарычны і палітычны лёс. Як пісаў Адольф Клімовіч, "гэта праца была яго жыццёвай стыхіяй, ён гэтым жыў". І гэта пры тым, што здароўя бракавала, самаадчуванне станавілася ўсё горшае, узнікала часцейшая патрэба звяртацца за дапамогай да дактароў. Тады на дапамогу прыходзілі сябры. Яны дапамагалі матэрыяльна, падтрымлівалі душэўна і маральна. Асабліва цесныя сяброўскія адносіны былі ў Ільяшэвіча ў той час з Адольфам Клімовічам і Уладзімірам Жылкам. Відаць, не выпадкова апошні ў лісце да Антона Луцкевіча называе ў ліку шчырых беларусаў, надзейных і перспектыўных студэнтаў прозвішча Міколы Ільяшэвіча.

Але жыццё ўносіла свае карэктывы. У чэрвені 1927 года Мікола Ільяшэвіч быў вымушаны падаць заяву з просьбай зняць з яго абавязкі "сакратара і прэсавага рэферэнта АБСА з прычыны слабога здароўя". Непрыкметна прыляцелі шчаслівыя і цяжкія студэнцкія гады. Універсітэт скончыў у 1928 годзе са ступенню доктара філасофіі. Тэма яго доктарскай дысертацыі была "Беларусь як антрапагеаграфічная адзінка". Гэта было мусіць першае навуковае даследаванне на такую тэму ў беларускай навуцы. На вялікі жаль, цалкам дысертацыя не была надрукавана, ды і не выходзіла асобнай кніжкай. Невялікія яе фрагменты змяшчаліся ў розных перыядычных беларускіх выданнях. Так, у часопісе "Студэнцкая думка" (№ 1(8)) за студзень-люты 1928 года быў надрукаваны раздзел пад назвай "Паходжанне, старадаўнія весткі і антрапалагічныя адзнакі беларусаў" са зноскай: "Гэты нарыс з'яўляецца кароткай выбаркай з прыгатаванай аўтарам працы "Беларусь, як антрапагеаграфічная адзінка". Хоць далейшы лёс гэтай работы, на жаль, невядомы. А праца была вартасная. Нават па тых раздзелах, якія дайшлі да нас, можна гаварыць пра яе высокі прафесійны ўзровень і вялікае значэнне для беларускай навукі. І гэта пры тым, што аўтару давялося ісці па суцэльным цаліку, не маючы папярэднікаў і адпаведна распрацаванай беларускай навуковай літаратуры.

У 1929 годзе Мікола Ільяшэвіч вярнуўся на Беларусь. Жыў у сваёй "каханай Вільні", дзе працаваў выкладчыкам у беларускай гімназіі і праваслаўнай Духоўнай семінарыі. Гэтыя навучальныя ўстановы знаходзіліся па суседству, у адным будынку, толькі на розных паверхах, і знаходзіліся ў славутых Базылянскіх мурах. На радзіму Мікола Ільяшэвіч вярнуўся зусім хворы, але ад грамадскай і навуковай дзейнасці не адышоў. Калі ў верасні 1930 года быў адноўлены выхад старэйшага сельскагаспадарчага часопіса "Саха", то Ільяшэвіч становіцца яго рэдактарам. У першым нумары выдання ў слове "Ад рэдакцыі" чытаем: "У вельмі цяжкіх абставінах знаходзіцца наша беларуская прэса, але прыступаючы да выдання "Сахі", мы верым у тое, што ўсё сведамае беларускае грамадзянства падтрымае яе..." І "Саху" падтрымалі. На працягу амаль двух гадоў Ільяшэвіч рупліва апекаваўся ім, ператвараючы гэта выданне ў "адзіны беларускі орган", прысвечаны сельскагаспадарчым пытанням Заходняй Беларусі. У тым жа першым вераснёўскім нумары быў змешчаны аргументавана-пераканаўчы, высокапрафесійны артыкул Міколы Ільяшэвіча "Эканамічны мамэнт Беларусі", дзе аўтар, уступаючы ў палеміку з ворагамі беларускай незалежнасці, даводзіць, што Беларусь мае такое ж права на сваю дзяржаву, як і ўсе іншыя суседнія народы. Што "наша культурная адсталасьць, гаспадарчы прымітывізм" вынікае з таго, што не маючы "сваёй палітычнай незалежнасці" мы, "беларусы пастаўленыя ў варунькі надзвычай цяжкія, у варунькі выключна старонкі эксплуатаванай".

Пісаць Міколу Ільяшэвічу даводзілася шмат і на розныя тэмы. Так, у 1929 годзе ў часопісе "Шлях моладзі", у пятым нумары, быў апублікаваны яго артыкул "Аб патрэбе турыстыкі на Беларусі", дзе ён пісаў, "што заданьнем гэтага артыкулу ёсьць закрануць пытаньне турыстыкі (падарожніцтва) на Беларусі й выклікаць зацікаўленасьць да арганізацыі Беларускага турыстычнага клюбу". Такім чынам, яго па праву можна назваць тэарэтыкам і заснавальнікам беларускага турыстычнага руху.

Акрамя хваробы і розных іншых перашкод, што чыніліся польскімі ўладамі, вымушаны быў Мікола Ільяшэвіч па вяртанні ў Вільню "здабываць сабе кваліфікацыю", гэта значыць, пацвярджаць вартасць свайго дыплома перад польскай атэстацыйнай камісіяй. І гэта пры тым, што Пражскі універсітэт лічыўся адным з лепшых у Еўропе.

У 1932 годзе ў Вільні ў Беларускай друкарні імя Ф. Скарыны выйшла чарговая кніга Міколы Ільяшэвіча. Называлася яна "Кароткі нарыс псыхалёгіі" і рэкамендавалася як падручнік для беларускіх сярэдніх школ. У прадмове аўтар пісаў: "Час і беларская школа вымагаюць падручніка псіхалогіі. На жаль, аднак, на беларускім кніжным рынку дагэтуль ніякае літаратуры ў гэтай галіне няма. Вось жа, каб даць хоць галоўныя падставы псыхалёгіі, выдаецца гэты "Кароткі нарыс псыхалёгіі". Безумоўна, Ільяшэвіч бачыў яго недахопы, разумеў яго канспектыўнасць, недасканаласць як падручніка. Але кніга была патрэбна беларускаму школьніцтву, а яшчэ шырэй грамадзянству, і таму ён згадзіўся на яе выданне, здолеўшы прафінансаваць яе выхад. У канцы кніжкі быў змешчаны кароткі тэрміналагічны беларуска-расійска-польскі слоўнік і некалькі ілюстрацый.

З моманту свайго прыезду ў Вільню Ільяшэвіч належаў да Беларускага навуковага таварыства. І калі ў 1933 годзе выйшаў "Гадавік Беларускага навуковага таварыства" то там можна было прачытаць яго надзвычай вартасную працу "Расейская палітыка на землях былога Беларуска-Літоўскага гаспадарства за панаванне Кацярыны ІІ і Паўла І (1772-1801)". У тым жа годзе яна выйшла асобнай кніжыцай. На жаль, гэтая праца была ў скарочаным варыянце, бо туды не ўвайшлі раздзелы пра суды, гарады, яўрэйскае пытанне, пра стаўленне да шляхты, пра асвету і школьніцтва. І, да нашага жалю, гэта была яго апошняя нам вядомая праца. Але не пісаць ён не мог. Гэта была яго стыхія, яго зброя ў барацьбе супраць рознай масці прыгнятальнікаў свайго народа. І таму ўзнікае заканамернае пытанне: дзе ўсё тое, напісанае Ільяшэвічам, але своечасова ненадрукаванае?

Як раз тут у Вільні і прыйшло да яго першае і апошняе каханне. Недзе ў канцы 1933 года ён сустрэў прыгожую і разумную дзяўчыну Ніну Алексяюк родам з Тапалян каля Міхалова, што на Беласточчыне, якая вучылася тады ў рускай гімназіі. Але каханню таму не суджана было быць доўгім. Ільяшэвіч дагараў. Ніякія лекі не дапамагалі, ды і не маглі ўжо дапамагчы. А 2 верасня 1934 года ва ўзросце 31 года ў санаторыі "ТОЗ" каля трох гадзін начы перастала біцца сэрца палымянага беларускага патрыёта. Яго пахавалі ў колішнім прыгарадзе Вільні пад назваю Ліпаўка на старых Свята-Еўфрасінеўскіх праваслаўных могілках.

Пачынаючы з 1984 года, я шукаў яго магілу. Але безвынікова. Не дапамаглі ні старыя беларусы-віленчукі, ні нават сведкі яго паховінаў. Магілка згубілася. Час і бяспамяцтва зрабілі сваю справу. А знаходзілася яна, калі ісці з цэнтральнага ўваходу па алейцы ўніз адразу за паваротам з правага боку, амаль насупраць Свята-Еўфрасінеўскай царквы, якая стаіць на ўзгорку і каля якой пахавана Алёна Лекант-Сакалова, былая настаўніца Віленскай беларускай гімназіі за сваім сынам.

Як склаўся лёс яго бліжэйшых сваякоў? Брат Хведар праз нейкі час жаніўся на ягонай каханай Ніне Алексяюк. У іх было двое дзяцей. Дачка Марыя 1936 года нараджэння і сын Юрка 1938 года. Цяпер яны жывуць у горадзе Шчэціне ў Польшчы. Марыя — вядомы польскі неўролаг. Магчыма, яна і захоўвае архівы Міколы і Хведара Ільяшэвіча. Што там можа захоўвацца? Цяжка сказаць. Цалкам верагодна, што там і знаходзіцца ўсё тое, што было напісана імі за іхняе такое кароткае, але такое змястоўнае жыццё.

**Міхась КАЗЛОЎСКІ.**

***P.S.*** ***Дарэчы, Хведар Ільяшэвіч выехаў на эміграцыю і трагічна загінуў у 1948 годзе ў аўтамабільнай катастрофе. Пахаваны ў Заходняй Нямеччыне ў мястэчку Ватэнштэт. А сястра Ніна, па мужу Жэро, жыла ў Бела-Падляшскім у Польшчы.***

З ГІСТОРЫІ ШКОЛЬНІЦТВА

# Галасы разбуджаных птушак

## З гісторыі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі

І хто толькі не працаваў у сценах гэтай навучальнай установы. Гэта і выдатны гісторык, рэдактар "Виленского вестника" Забелін Аляксей Іванавіч (дарэчы, першы дырэктар семінарыі) і Дураў Міхаіл Архіпавіч – чалавек, які скончыў Маскоўскі універсітэт, быў карэспандэнтам беларускага фалькларыста П. Шэйна. А хіба імя Крылова Аляксандра Лукіча не магло выклікаць павагу ў семінарыстаў? Гэта менавіта ён, з'яўляючыся членам Маскоўскага археалагічнага таварыства займаўся археалагічнымі раскопкамі ў ваколіцах нашага горада. А Маркаў Дзмітрый Аркадзевіч? Аўтар цікавай і павучальнай кнігі "Падарожжа студэнатаў Маскоўскай духоўнай акадэміі да гроба Гасподняга", а затым дырэктар Саратаўскага настаўніцкага інстытута. Добрым знаўцам свайго прадмета з'яўляўся і выкладчык арыфметыкі і геаметрыі Багдановіч Антон Станіслававіч. У 1910-11 гадах на старонках часопіса "Реформа народной школы" ён выступіў з цікавым артыкулам, у якім указваў, "што асноўнай мэтай рашэння арыфметычных задач у пачатковай школе павінна быць прывучэнне вучняў да лагічнага мыслення і ўвага іх павінна быць накіравана на рашэнне задач шляхам аналізу і сінтэзу". Сапраўдным эрудытам, тонкім і чулым выкладчыкам, быў Вігілёў Сяргей Дзмітрыевіч, які выкладаў гісторыю і геаграфію. Яго ўрокі ператвараліся ў займальныя падарожжы па розных краінах свету, абуджалі памяць пра даўно адышоўшыя часы і вякі. З 1915 года ён пачаў працаваць у Нова-Вілейскай настаўніцкай семінарыі, дзе вучыўся ў той час выдатны беларускі паэт Уладзімір Дубоўка. Потым Дубоўка не аднойчы ўспамінаў добрым словам педагагічны калектыў той семінарыі і асабіста Вігілёва С.Дз. Выдатным беларускім фалькларыстам, этнографам, гісторыкам быў і Крачкоўскі Юльян Фаміч, які выкладаў у семінарыі расійскую мову, гісторыю, геаграфію і спевы. Між іншым, ён быў першым дырэктарам Полацкай настаўніцкай семінарыі. Яшчэ можна назваць прозвішчы такіх настаўнікаў, як Русецкі Рыгор Антонавіч (расійская мова), Слаўніцкі Іван Пятровіч (геаграфія і прыродазнаўства), Чудоўскі Мікалай Іванавіч (гісторыя і геаграфія), Арлоўскі Дзмітрый Аляксеевіч (мова і літаратура) ды іншыя. Яны працавалі ў розны час, былі рознымі людзмі, але пакінулі свае прозвішчы на старонках асветы нашага краю.


Трыццаць дзевяты выпуск Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. 1906 год.

У верасні 1906 года ў семінарыі адбылася забастоўка, да якой далучыліся навучэнцы яшчэ трох семінарый Віленскай вучэбнай акругі. Вось як піша Г. Каханоўскі ў сваёй кнізе "Маладзечна": "семінарысты ставілі ўмовы толькі вучэбнага плану: адчыніць выпускнікам настаўніцкіх семінарый доступ у вышэйшыя навучальныя ўстановы, скараціць курсы такіх прадметаў, як стараславянская мова і яе граматыка; увесці ў навучальную праграму выкладанне алгебры і замежнай мовы; дазволіць студэнтам правядзенне агульнадаступных вечароў, зняць з пасады дырэктара і двух выкладчыкаў". Пад уплывам іх патрабаванняў семінарыю мусіў пакінуць дырэктар Гадыцкі-Цвірка і найбольш ненавісны для семінарыстаў настаўнік. Пасля гэтых падзеяў семінарысты арганізавалі ў Маладзечне з'езд прадстаўнікоў мясцовай, Свіслацкай, Полацкай, Нясвіжскай і Панявежскай настаўніцкіх семінарыяў. За такое самавольства навучэнцы былі жорстка пакараны. Некаторыя ўдзельнікі з'езду, а сярод іх Калядка, Міхалевіч, Шыла, Пратасеня былі выключаны з семінарыі, а найбольш актыўныя ініцыятары з'езду былі арыштаваныя і аддадзены пад суд. І яшчэ. Прыкладна ў канцы 1906 года семінарысты склалі песню, якая атрымала вялікую папулярнасць не толькі ў сценах Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, але і ў іншых аналагічных навучальных установах тагачаснай Беларусі. Называлася яна "Семінарская доля":

З Маладзечна вецер дуе, семінарыя бастуе,
Гэй, гэй, доля мая, дзе ж ты вадою заплыла?
Наш дырэктар ліберал, усіх настаўнікаў склікаў,
Гэй, гэй, доля мая, дзе ж ты вадою заплыла?
Са зладзеяў, усіх зладзеяў, выступае наш Мацвееў,
Гэй, гэй, доля мая, дзе ж ты вадою заплыла?
Ён схіліў набок галоўку, выступае вельмі лоўка.
Гэй, гэй, доля мая, дзе ж ты вадою заплыла?
Што, моў, нашы семінарысты ўсе, як адзін, сацыялісты.
Гэй, гэй, доля мая, дзе ж ты вадою заплыла?
Ад абедні ўцякаюць і з яўрэйкамі гуляюць,
Гэй, гэй, доля мая, дзе ж ты вадою заплыла?

Жыццё семінарыста не было лёгкім. Казёншчына, падхалімства, даносы былі звычайнай з'явай, але самае страшнае было тое, што з семінарыстаў рыхавалі рэкрутаў для барацьбы супраць уласнага народа. Адной з галоўных задач, якая стаяла перад выкладчыкамі семінарыі, была падрыхтоўка са студэнтаў "рускага дзеяча сярод усякіх антырускіх плыняў у беларускай вёсцы". На працягу доўгіх гадоў свайго існавання, асабліва ў раннім перыядзе, ў семінарыі панаваў афіцыйны дух пагарды і грэблівасці да ўсяго роднага, беларускага. У свой час Язэп Лёсік пісаў: "Настаўніцкія семінарыі і інстытуты былі спецыяльнымі школамі абрусення... У гэтых школах-муштрах усё роднае, мясцовае беларускае знішчалася і ўтоптвалася ў бруд...".

Але, нягледзячы на нацыянальны прыгнёт, вырастала маладая рунь. Выхаванцы цікавіліся гісторыяй свайго народа, вывучалі народную творчасць. Так, пад кіраўніцтвам П. А. Гільтэнбранта сіменарысты па ўсёй Беларусі збіралі фальклор, які ў 1866 годзе ў Вільні выйшаў асобнай кнігай пад назвай "Зборнік помнікаў народнай творчасці ў Паўночна-Заходнім краі", дзе былі змешчаны 300 песень, 151 прыказка, 93 загадкі.

(працяг будзе)

**Язэп РОКАШ.**

ГАСПАДЫНІ НА ЗАМЕТКУ



## НАЛІЎКА ДЛЯ ДАМ

Яе падаюць нават пасля чорнай кавы. Вялікую бутэльку ёмістасцю ў некалькі гарцаў (1 гарнец » 2,8 літра) напаўняюць якімі-небудзь ягадамі і заліваюць спіртам. Ставяць яе ў цяпле або на сонцы на доўгі ці больш кароткі час, у залежнасці ад таго, хутка ці павольна ягады пускаюць сок. Напрыклад, суніцы, маліны, парэчкі праз дзесяць дзён ці пару тыдняў бялеюць. Тады з іх зліваюць спірт, каб ён не ўвабраў пах кіслаты, і, па магчымасці, льюць яго другі раз на свежыя ягады.

Вішні і спелы агрэст – з іх вельмі добрая наліўка – трэба трымаць у спірце даўжэй. Слівы-вадзянкі павінны стаяць некалькі месяцаў, пакуль іх костачкі не насыцяць вадарам спірт. Калі ён набудзе смак і пах ягад, яго працэджваюць праз белы суконны мяшэчак, трохі націскаючы, калі ягады не даўкія. З суніц і малін зліваюць лёгка. На кожную кварту (1 кварта = 0,7 літра) спірту адважваюць фунт (1 фунт » 400 грам) цукру.

Наліўку выліваюць у самавар ці латунную каструлю і памячаюць, да якога ўзроўню пасудзіна напоўненая. Потым сыплюць прыгатаваны цукар і на вугалях вараць да першай адзнакі. Астуджаную наліўку разліваюць у бутлі, а потым праз тыдзень ці два зліваюць з асадку. Яго ж пасля фільтруюць

Іншы спосаб прыгатавання гэтай наліўкі. Ён адрозніваецца ад папярэдняга тым, што не ўсю колькасць наліўкі вараць пад накрыўкай, а толькі палову яе з усім цукрам (захоўваецца згаданы вышэй спосаб вымярэння). Астатнюю ж палову, негатаваную, уліваюць у першую, пакуль тая гарачая. Перамяшаўшы, даюць астыць, а потым зліваюць вадкасць у бутлю. Праз тыдзень фільтруюць.

**NB.** Хто хоча, можа дадаць у наліўку вострыя прыправы.

НА КАРЦЕ НАШАЙ ЗЯМЛІ

# Памяткі гісторыі Астравеччыны

Тэрыторыя сучаснага Астравецкага раёна ў перыяд уваходжання Беларусі ў склад Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.ст.) знаходзілася ў складзе трох паветаў Віленскай губерні: Ашмянскага, Вілейскага, і Свянцянскага. Таму архіўныя крыніцы, асабліва з губернскіх фондаў, захоўваюцца цяпер пераважна ў Гістарычным архіве Летувы (Вільня).

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне, які захоўвае дакументы па гісторыі былой Гродзенскай губерні за XIX – пачатак XX ст.ст., гісторыя Астравеччыны адлюстравана ў некаторых фондах Ашмянскага і Свянцянскага паветаў, а таксама ў друкаваных выданнях навукова-даведачнай бібліятэкі архіва... Так, у энцыклапедыі "Словнік географічны Крулевства Польского і інных краюв словянскіх" пад рэдакцыяй Б. Хлябоўскага, В. Валеўскага і Ф. Сулімерскага даецца графічнае і гістарычнае апісанне Астраўца, Варнян, Гервятаў, Гудагая, Кямелішак, Маляў, Міхалішак ды іншых паселішчаў Астравеччыны.

Вось, да прыкладу, апісанне Астраўца. У другой палове XIX ст. гэта было мястэчка і фальварак Віленскага павета. Тады тут налічваліся 22 дамы і 176 жыхароў, вінакурня, бровар, тартак, паравая цагельня, фабрыка дрэнажоў. Конная чыгунка даўжынёй 5 вёрст звязвала Астравец са станцыяй Слабодка. Існавалі два манастыры: адзін у Астраўцы, другі – у Слабодцы на адлегласці дзвюх вёрст ад мястэчка.

У 1474 г. заснаваў тут кіеўскі ваявода марцін Гаштольд касцёл і кляштар дамініканцаў. Прывілеем караля Жыгімонта Аўгуста ад 9 мая 1537 г. "маентнасць" пераходзіць да Станіслава Гаштольда, ваяводы навагрудскага, пазней віленскага і троцкага, першага мужа Барбары Радзівіл. Пасля смерці Гаштольда Астравец пераходзіць да Карыцкага. Праз стагоддзе мястэчка пераходзіць да Корсакаў. У 1616 г. Ян Мікалай і Галена Корсакі пабудавалі касцёл дамініканцаў замест разбуранага. Калі і гэты касцёл прыйшоў у занятпад, Гіляр Ціжэўскі збудаваў у 1787 г. новы касцёл і кляштар дамініканцаў. На пачатку XIX ст. Астравец перайшоў ва ўласнасць Кастравіцкіх, а затым Ромераў. У 1866 г. касцёл і кляштар дамініканцаў былі зачынены. Касцёл перабудавалі ў праваслаўную царкву Шумскага благачыння.

Згодна з паданнямі, мястэчка і фальварак называліся Астраўцом, таму што ляжалі нібы на востраве, утвораным рэчкамі Лошай, Кегнай і Кавалькай. Над Кавалькай знаходзіцца вёска Кавалі. Названая так, па паданні, таму, што калісьці тут былі жалезныя заводы, ад якіх засталіся толькі ямы.

У астравецкіх межах, над берагам рэчкі Кегны, ёсць цэлая сістэма валоў даўжынёй каля дзвюх вёрст, якія служылі для нейкіх прамысловых мэтаў.

Пра вёску Варняны "Слоўнік геаграфічны" падае наступныя звесткі. Гэта было мястэчка Віленскага павета. У другой палове XIX ст. тут налічвалася 24 дамы, 249 жыхароў, з іх 13 праваслаўных, 22 каталікі, 114 габрэяў. Былі тут парафіяльны касцёл, габрэйскі малітоўны дом, сялянская школа, дом прытулку, 18 крамаў, цагельня; штонядзельна адбываліся торгі ды кірмашы. Касцёл тутэйшы – адзін з найдаўнейшых на "Літве", фундаваны ў 1462 г. Марыянай Сангайлавай. У 1769 г. ён быў перабудаваны на цагляны, меў дзве вежы; адноўлены ў 1880 г.

Варняны – даўняя ўласнасць Абрамовічаў, потым Снядэцкіх. Пры канцы XVI ст. Ян Абрамовіч, староста лідскі, а потым ваявода смаленскі, заснаваў тут рэфармацыйны збор, а пры ім – школу і шпіталь..

Шмат карысных звестак па гісторыі Астравеччыны можна знайсці ў "Памятных книжках Виленской губернии" за 1856-1915 г.г. Гэтае даведачнае выданне ўтрымлівае інфармацыю пра губеранскія і павятовыя ўстановы, іх склад, месцазнаходжанне, спісы чыноўнікаў, якія працавалі ў іх. Акрамя таго, там ёсць шмат іншых звестак, якія датычацца і гісторыі Астравеччыны. Напрыклад, падаюцца расклады руху цягнікоў, публікуюцца народныя календары, "паштовыя дарожнікі" ды іншае...

"Памятные книжки Виленского учебного округа" 1877, 1885-1886, 1906-1909, 1913-1914 г.г. даюць звесткі пра вясковыя школы – народныя вучылішчы. Так, у Віленскім павеце на тэрыторыі сучаснай Астравеччыны яны былі ў Астраўцы, Варнянах і Гервятах.

Астравецкае народнае вучылішча існавала з 1867 г. Размяшчалася яно ў грамадскім доме (бясплатна). На ўтрыманне вучылішча адпускалася з казны 200 руб. у год. Вучняў было 24 хлопчыкі і дзве дзяўчынкі. Настаўнікам працаваў Павел Жамойцін, які закончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Атрымоўваў ён 150 руб., хлеба на 18 руб. і кватэру. Астравецкі законанастаўнік праваслаўнага веравызнання, святар Аляксандр Савіч закончыў Літоўскую духоўную семінарыю. Законанастаўнікам каталіцкага веравызнання быў ксёндз Леў Глямбоцкі.

Варнянскае народнае вучылішча, заснаванае ў 1864 г., таксама размяшчалася ў грамадскім доме. На ўтрыманне вучылішча адпускалася з казны 200 руб. у год. Вучыўся тут 51 хлопчык.

Гервяцкае народнае вучылішча заснавана ў 1867 г. На ўтрыманне яго адпускалася 120 руб. у год з дзесяціннага збору сялян. Вучылася ў ім 40 хлопчыкаў.

Кямелішскае вучылішча Свянцянскага павета, заснаванае ў 1868 г., размяшчалася ў доме валаснога праўлення. На ўтрыманне адпускалася 254 руб. са сродкаў воласці. Вучыўся тут 31 хлопчык.

Каштоўныя звесткі па гісторыі рэлігійных устаноў Астравеччыны ёсць у "Подрочнэй энцыклёпэдіі косцельнэй" ды іншых выданнях, якія захоўваюцца ў архіве.

**Марыя САЧОК, Гродна**

КУФЭРАК № 8
Адказны за падрыхтоўку матэрыялаў Міхась Казлоўскі.
У падрыхтоўцы "Куфэрка" прымалі ўдзел Алесь Капуцкі, Анатоль Акулік, Вячаслаў МІХАСЁНАК.

